# Беларуская школа у Латвіі



папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік **№ 1 (11)**



**Зьмест нумару:**



Чэрвень 1932 году, Рыга

# Беларускае Выдавецтва аднаўляючы выхад штомесячніка

# Беларуская Школа у Латвіі

заклікае ўсё беларускае грамадзтва падтрымаць штомесячнік шляхам зьбіраньня падпішчыкаў і надсылкаю інфармацый аб жыцьцю беларусаў у Латвіі і Літве, а таксама ў краю і па-за межамі.

Штомесячнік

**«Беларуская Школа у Латвіі»**

прысьвячаецца галоўным чынам жыцьцю і асьветнай працы беларускае меншасьці ў Латвіі, але будзе даваць агляды беларускага культурна-асьветнага, навуковага, літаратурнага і грамадзкага жыцьця беларусаў ва ўсіх краінах. Частку балонак штомесячніка Рэдакцыя мае на мэце адвясьці друкаваньню беларускіх народных казак, апавяданьняў, сьпеваў і іншых фольклёрных матарыялаў, сабраных у Латгаліі і Ілукштаншчыне.

**Падпісная плата на штомесячнік:**

| | |
|---|---|
| На цэлы год з перасылкаю ў Латвіі | — Ls 6.—. |
| „ „ „ „ за межы | — 2 ам. дал. |
| Асобны нумар каштуе ў Латвіі | — Ls 0.50. |
| „ „ „ „ Літве | — 1 літ. |
| „ „ „ за межамі | — 20 ам. цнт. |

**Падпіску надсылать па адрасу:**
**Latvijā, Rīgā pasta tek. reķina № 836.**

**Матарыялы і лісты надсылаць у Рэдакцыю па адрасу:**
**Latvijā, Rīgā, pastkast № 1362.**



# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік.

**Падпісная плата:**
ў Латвіі да канца году — Ls 3, за межы—1 ам. даляр, або 5 лат. На месяц з пе-.расылкай 50 сант. Адзін № у кіосках 50 сант.
Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак штомесячніка:
Rīgās pastā, tek. reķina № 836.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Рыга, Ільінская вул., 20 к. 25.
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkast № 1362.
Рэдактар па справах часопісу прыймае па ўторках ад 14-ці да 16-ці гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца
Аплачваць аўтарскія гонорары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

**№ 1 (11).** **Рыга, чэрвень 1932 году.** **Год VI.**



## Ян Восіпавіч Харлап —
## першы старшыня Цэнтральнага Праўленьня Беларускага культурна-прасьветнага Т-ва„ Бацькаўшчына“ у Латгаліі.

**(Да дзесяцігодзьдзя Беларускае школы ў Латвіі. Успамін).**

У гісторыі першых двух гадоў арганізацыйнае працы беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі — ў 1921-ым і ў 1922-м годзе — і ў змаганьні беларусаў за сваю нацыянальную школу на Латвійскай тэрыторыі немалую ролю адыграў першы старшыня Цэнтральнага праўленьня Беларускага культурна - прасьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“ ў Латгаліі—Ян Восіпавіч Харлап. Ен быў першым з абмаскаленых крывіцкіх інтэлігэнтаў і настаўнікаў-беларусаў ў Дзьвінску, хто не пасароміўся голасна назваць сябе беларусам, хто горача адгукнуўся на заклік Рыскага Беларускага культурна-прасьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“ аб стварэньні гэткай-жа арганізацыі і ў Дзьвінску і хто не спалохаўся расейскіх і польскіх інтрыг супроць беларускага адраджэньня і яго павадыроў.

Ужо ў першы свой прыезд у Дзьвінск, з самага першага спатканьня ў сакавіку месяцы 1921 г., з першых некалькіх словаў, якімі мы абмяняліся, — я адразу адчуў у Яне Восіпавічу шчырага і адданага беларускага дэмакрата-адраджэнца, і ў нас адразу завязалася ўзаемная і глыбокая прыязьнь, прыхільнасьць адзін да аднаго і цёплае сяброўства, якія потым так дапамагалі нам вясьці працу ў самыя цяжкія моманты і разумець адзін-аднаго з паўслова.



**Ян Восіпавіч Харлап.**

Ян Восіпавіч Харлап выступіў на арэну беларускага адраджэнчага змаганьня ўжо пад канец свайго жыцьцёвага шляху, 50-цігадовым, шмат пераважыўшым чалавекам, аднак духовыя сілы і каханьне яго да роднага бе-

ларускага народу былі настолькі моцнымі, што ён здолеў выявіць чыста юнацкую захопленасьць, адданасьць і энэргію. Радзіўся Ян Восіпавіч 25 жніўня 1871 году на Віленшчыне, у вёсцы Дразды, Вейстомскай воласьці Свенцянскага павету.

Пачатковую адукацыю атрымаў у вясковай школе, а затым 16-цігадовым хлапцом трапіў у Маладзечанскую вучыцельскую сэмінарыю, якую скончыў у 1891 годзе і таго-ж году быў прызначаны ў вясковую Лотыгольскую школу на Віленшчыне ў Вязанскай воласьці Вілейскага павету. З гэтае даты і пачалася пэдагогічная праца Яна Восіпавіча ў расейскіх школах на Беларусі, якім ён аддаў аж 30 год свайго жыцьця да таго моманту, як узяўся за беларускую асьветна-грамадзкую працу.

Абмаскалены і апалячаны Дзьвінск варожа спаткаў закладзенае 25 сакавіка 1921 году беларускае культурна-прасьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“. На Яна Восіпавіча пасыпаліся нападкі і высьмеіваньня калегаў-расейцаў, зьдзекі і запугіваньня з боку польскага грамадзтва, аднак ён, усхвіляваны і знэрваваны гэтаю нечаканаю варожасьцьцю, ня кідаў працы і моцна трымаўся беларушчыны. Кватэра яго — на Вітабскай вуліцы, у школьным будынку № 16 — зрабілася запраўдным цэнтрам беларускае працы: мейсцам сходаў Цэнтральнага Праўленьня і агульных сходаў Т-ва „Бацькаўшчына“, канцалярыяй Т-ва і крыніцаю ўселякіх інфармацый для беларускага жыхарства. У гэтым жа будынку ў канцы 1921 году адкрыліся Беларускія Дзяржаўныя аднагадовыя вучыцельскія курсы. Тутака-ж адбыліся першых два сходы бацькоў-беларусаў 2-й расейскай школы, на якіх, пасьля гарачых спрэчак з абмаскаленаю большасьцьцю, выявілася і згуртавалася сьвядома-прыхільная група бацькоў-беларусаў, якая потым і аддала сваіх дзяцей у 1-ю Дзьвінскую аснаўную беларускую школу.

Нэрвовасьць працы яшчэ больш павялічылася, калі, пад уплывамі расейскіх і польскіх нашоптаў, пачала скоса паглядаць на беларусаў і латгальская палітычная паліцыя. Паасобныя адзінкі, застрашаныя і стэрызаваныя агульнымі нападкамі, пачалі трымацца больш пасыўна і пад рознымі прычынамі адыходзіць ад актыўнай працы; сакратар Т-ва — малады у той час грамадзянін — Паўчар, так напалохаўся, што, нават падаў у Праўленьне нейкую, дужа дзіўную і падазроную, увачавідкі кімсьці прадыктаваную заяву аб выхадзе з Т-ва і раптам выехаў у Літву. Толькі адзін Ян Восіпавіч гонарова стаяў на варце і не адышоў ад працы нават тады, калі — з яўным намерам паўплываць на ягоную псыхіку — у яго быў зроблены вобыск, які астаўся бяз вынікаў.

Ня дзіва, што ўлетку 1922 году Ян Восіпавіч занядужаў, а ўвясну 1923 году, 18 сакавіка, яго ўжо ня стала. 20 сакавіка 1923 году беларускае грамадзтва ў Дьвінску з вялікім сумам і шчыраю пашанаю праводзіла свайго першага старшыню на мейсца вечнага адпачыку. Ускладаючы ад імя Т-ва „Бацькаўшчына“ вянок на сьвежую магілу, Ян Ігнатавіч Краскоўскі зазначыў, што „памяць аб Яну Восіпавічу Харлапу ніколі ня згіне ў сэрцах беларускае меншасьці ў Латвіі!“—Мы шчыра жадаем, каб словы гэтыя збыліся, і таму ў гадавіну сьвяткаваньня 10-цігодзьдзя беларускае школы ў Латвіі першыя словы падзякі і першы наш нізкі паклон—сьветлай памяці Яна Восіпавіча Харлапа. **К. Езавітаў.**

## Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства „Бацькаўшчына“ у Латгаліі і ягоная роля у справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі.

„Беларускае Культурна - Асьветнае Таварыства «Бацькаўшчына» у Латгаліі“ закладзена было ў Дзьвінску 25 сакавіка 1921 году. У гэты дзень група ініцыятараў сабралася на кватэры ў Яна Восіпавіча Харлапа для заслуханьня дакладу аўтара гэтых радкоў на тэму: — „Гісторыя беларускага адраджэнчага руху“. Пасьля дакладу быў заслуханы прапануемы дакладчыкам праэкт статуту „Беларускага Культурна - Асьветнага Т-ва «Бацькаўшчына» у Латгаліі“ і ўхвалена было падаць гэты статут на зацьверджаньне. Падпісаць статут згадзіліся грамадзяне: 1) Канстантын Барысавіч Езавітаў, 2) Ян Восіпавіч Харлап, 3) Ян Максімавіч Белікаў, 4) Мікола Мітрафанавіч Хмялеўскі, 5) Вольга Аляксандраўна Васільева, 6) Пётра Пятровіч Дзяменьцьеў, 7) Якаў Фёдаравіч Кастылюк, 8) Аўгіньня Фёдараўна Чапля і 9) Марыя Ільішна Сасноўская.
30-га сакавіка першыя сямёра з вышэйпералічаных грамадзян падпісалі статут у нотара, а 6-га красавіка статут быў здадзены ў Латгальскі Акруговы Суд у Дзьвінску на зацьверджаньне.

У працягу часу, пакуль статут праходзіў праз усе фармальнасьці рэгістрацыі, ініцыятыўная група распрацавала праэкт далейшае працы, намеціла склад часовага Цэнтральнага Праўленьня і першыя арганізацыйныя крокі яго. Вось чаму, калі статут быў нарэшці зацьверджаны, праца Праўленьня пачала разьвівацца надзвычайна шпарка і прадукцыйна па раней распрацаванаму пляну.

Праца Т-ва „Бацькаўшчына“ улетку 1921 году разьвівалася, галоўным чынам, у трох аснаўных кірунках: па-перш — у кірунку пашырэньня сваіх уплываў на беларускае грамадзтва ў Латвіі, шляхам стварэньня філіалаў Т-ва ў розных мясцовасьцях, каб аб'яднаць наўкола „Бацькаўшчыны“ ўсе сьвядомыя беларускія сілы і праз іх згуртаваць і паступова ўсьвядоміць усю беларускую меншасьць; падругое — у кірунку інфармацыі латвійскага грамадзтва і Ураду аб становішчы беларускае меншасьці і яе культурна - асьветных патрэбах; а па-трэцяе — у кірунку арганізацыі беларускіх школ у Латвіі, найперш-жа ў беларускіх вёсках Латгаліі.

Трэба канстатаваць, што ва ўсіх трох пералічаных кірунках праца мела даволі задавальняючыя посьпехі. — У працягу лета 1921 году было закладзена некалькі аддзелаў Т-ва, з якіх галаўнейшымі былі: Люцынскі, Краслаўскі і Стара-Слабодзкі. Латвійскаму Ураду, Міністэрству Асьветы і Устаноўчаму Сойму Латвіі былі пададзены абшырныя мэморыялы аб агульным стане беларускага жыхарства, а мяйсцовым Латгальскім самаўрадам і інспэктаром народных школ у Латгаліі былі накіраваны матываваныя заявы аб патрэбе стварэньня беларускіх школ у некаторых валасьцёх і гарадох Латгальшчыны. Каб падрыхтаваць адчыненьне з восені 1921 - 22 навучальнага году адкрыцьце беларускіх школ, Т-ва правяло рэгістрацыю настаўнікаў-беларусаў, якія скончылі расейскія вучыцельскія інстытуты, вучыцельскія сэмінарыі і восьмыя клясы жаночых гімназій, або вытрымалі адпаведныя іспыты — у даваенныя часы ці пры Латвійскай уладзе — і ужо мелі права выкладаць у школе. Такіх настаўнікаў-беларусаў аказалася вельмі значная лічба у Дзьвіншчыне і ў Лю-

цыншчыне і нават у самым м. Дзьвінску, шмат хто з іх меў ужо і пасады ў расейскіх і польскіх школах, і вось для іх, каб падрыхтаваць іх да працы ў беларускай школе, Т-ва пачало дамагацца ад Міністэрства Асьветы дазволу на стварэньне летніх курсаў Беларусазнаўства ў Дзьвінску і ў Люцыну.



**Ігнат Дварчанін** — аўтар „Беларускае Хрэстаматыі“ і пасол польскага Сойму, зара сядзіць у турме: засуджаны польскаю уладаю.

Захады Т-ва „Бацькаўшчына“ аб курсах Беларусазнаўства ў Дзьвінску закончыліся памысна: 28 ліпеня 1921 году, на аснове паведамленьня Міністэрства Асьветы ад 27 ліпеня за № 3076, — у Дзьвінску былі адкрыты першыя летнія шасьцітыднёвыя курсы Беларусазнаўства для настаўнікаў - беларусаў. Лектарамі на курсы былі прызначаны грамадзяне: К. Езавітаў і Ігнат Дварчанін, выпісаны з гэтаю мэтаю Т-вам з Вільні. Агульнае кіраўніцтва курсамі было ўскладзена на інспэктара асноўных школ Дзьвіншчыны, гр. Луку Азоліня, які кіраваў гаспадарчаю часткаю і рабіў аплату лектароў з пераведзенай у яго распараджэньне кіраўніком школьнага дэпартамэнту Міністэрства Асьветы, гр. Мэлналксьнісам, невялічкай дапамогі на беларускія курсы — здаецца ўсяго ў памеры 500 рублёў.

Слухачамі на Дзьвінскія летнія курсы Беларусазнаўства запісаліся 73 асобы:

1. Цішкевіч Марыя, ск. 7 кл. гімн., вуч. Сватаўскае шк. ў Каліншчыне.
2. Шаршун Алёна, ск. 5 кл. гімн. і 8 мес. пэд. курс.,Пагулянскай школы.
3. Кокіна Леонарда, ск. 4 кл. гімн., вуч. Элернскай шк. ў Ілукштаншч.
4. Белякова Вера, ск. 8 кл. гімн., вуч. Калупскае шк. ў Дзьвіншчыне.
5. Жук Віктар, ск. вуч. сэмінар., вуч. Бароўскае шк. ў Ілукштаншчыне.
6. Вашкевіч Ян,—вестак німа.
7. Земец Антон, ск. 4-х кл. гар. вуч., вуч. Бальманскай шк. ў Ілукштан.
8. Гнядоўская Марыя, сконч. 7 кл. гімн., вучыцелька.
9. Казлоўская Аляксандра, сконч. 7 кл. гімн., вучыц.
10. Чыжэвіч Марыя, ск. 4 кл. гімн., вуч. I Прыдруйскай школы.
11. Жукава Ніна, — вестак німа.
12. Вішнеўская Антаніна, — вестак німа.
13. Памеранцава Зофія, ск 7 кл. гімназіі.
14. Салаўёў Аўген, ск. 7 кл. рэальн. вуч. і пэдаг. курсы, вучыцель Балтмуйжскай школы ў Дзьвіншчыне.
15. Салаўёў Аркадзь, ск. 7 кл. рэальн вуч., пасады ня мае.
16. Зыкава Лідзія, 8 кл. гімн., вуч. 2-й расейск. шк. ў Дзьвінску.
17. Юкша Анастасія, ск. 4 кл. гімназіі.
18. Філатаў Мікалай, ск. вуч. сэмінар., вуч. Скрудалінскае шк. ўІлукшт.
19. Зінькевіч Моніка, ск. 7 кл. гімн. і вуч. курсы, вуч Калкунскае шк.

20. Васілеўскі Зігмунд, ск. 7 кл. рэальнага вучылішча.
21. Дзямідава Гэлена, ск. 8 кл. гімн., вуч. Станкевічскай школы.
22. Чапля Ніна, ск. 8 кл. гімн., вуч. III Дзьвінскай расейск. школы.
23. Высокіх Уладзімер, ск. Кадэтскі Корп., вуч.-кір. Прыдруйскае шк
24. Бялінская Вольга, ск. 8 кл. гімн., вучыцелька.
25. Васільева Вольга, ск. 8 гл. гімн., кіраўн III рас. шк. ў Дзьвінску.
26. Хмялеўскі Мікалай, ск. вуч. сэм., вуч. III рас. шк. ў Дзьвінску.
27. Хахлоў, — вестак німа.
28. Станкевіч Язэп, — вестак німа.
29. Астроўскі Фэліцыян, ск. 3 кл. рэальн. вуч. і пэд. курсы, вуч. Курцумскае школы, Ілукштанскага пав. † у сакавіку 1932 г.
30. Акунёў Аляксандр, ск. 4-х кл. гар. вуч., вуч Таборскай школы ў Скрудалініпчыне Ілукштанскага павету.
31. Мілоўская Аўгіньня, ск. 8 кл. гімн., вуч. Крыванскае школы ў Ліксненшчыне Дзьвінскага павету.
32. Шыфэр Марыя, — вестак німа.
33. Дзедзель Язэп, — вестак німа.
34. Бонікевіч Леокадзія, ск. 6 кл. гімн. і пэд курсы, вуч. Капінскае школы ў Ізабелінпічыне Дзьвінскага павету.
35. Харлап Аўген, — вестак німа. † у ліпеню 1922 г.
36. Агеева Натальля, ск. 8 кл. гімн., вуч. Янчынскай шк. ў Дзьвіншчын.
37. Лебедзеў Піліп, ск. вуч. сэм., вуч. Кошкінскай шк ў Дзьвіншчыне.
38. Кастылюк Якуб, ск. вуч. інстытут, вуч. III расейск шк. ў Дзьвінску.
39. Дубавік Канстантын, ск. пэд. курсы ў Віцебску, вуч. Якубінскае школы ў Малінаўшчыне Дзьвінскага павету. † 1930 г.
40. Сасноўская Марыя, ск. 8 кл. гімн., вуч. I расейск. шк. ў Дзьвінску.
41. Сямёнава Кацярына, ск. 7 кл. гімн., вуч. Малюткаўскае школы ў Ілукштаншчыне.
42. Малько Міхал, — вестак німа.
43. Чапля Гэнадзі, ск. 7 кл. рэальнага вуч.
44. Лянкевіч Аўгіньня, ск. 7 кл. гімн., вуч. Кокінскае шк. ў Ізабелінпіч.
45. Калядзінская Разалія, ск. 7 кл. гімн., вуч. польск. шк. ў Дзьвінску.
46. Заліўскі Сьцяпан, ск. духоўн. сэмінарыю, пасады ня мае.
47. Ерафеева Аляксандра, — вестак німа.
48. Савіцкая Фрацышка, ск. 6 кл. гімн., вуч. IV польск. шк. ў Дзьвінску.
49. Дзевяковіч Марыя, ск. прагімн., вуч. Эйсаўскае шк. ў Прэльшчыне.
50. Перавалаў Язэп, — вестак німа.
51. Бінькова Алясандра, — вестак німа.
52. Старынская Марыя, — вестак німа.
53. Кляменьцьеў Аляксей, ск. вуч. сэм., кір. I рас. асн. шк. ў Дзьвінску.
54. Войтава Вольга, — вестак німа.
55. Шостак Ігнат, ск. вуч. сэмінар., Бароўскае шк. ў Ілукштаншчыне.
56. Галькоўская Марыя, — вестак німа.
57. Ермачонак Анна, —вестак німа.
58. Новікава Марыя, — вестак німа.
59. Рыбакова Агата, — вестак німа.
60. Каржанеўская Аляксандра, ск. 8 кл. гімн., вуч. I рас.шк. ў Дзьвінску.
61. Марозава Марыя, ск. 8 кл. гімн., вуч. Маскавіцкае шк. ў Прэльшчыне.
62. Сапега Мікіта, ск. Археолёг. інстытут і вайсковае вучылішча, вуч. III рас. школы ў Дзьвінску.
63. Цімаховіч Антон, ск. 6 кл. рэальн· вуч. і вуч. курсы, вуч. Пустынскае школы ў Дзьвіншчыне. † 1924 г.

64. Мікіраў Тадор, — вестак німа.
65. Белікаў Ян, ск. вуч. сэмінар., вуч. II рас. школы ў Дзьвінску.
66. Кляменьцьеў Андрэй, ск. 7 кл. рэальн. вуч., вуч. Каралеўскае школы ў Малінаўшчыне, Дзьвінскага павету.
67. Сушынская Гэлена, ск. 8 кл. гімн., пасады ня мае.
68. Вэвэр Леокадзія, ск. 5 кл. гімн. і вуч. курсы, пасады ня мае.
69. Паланевіч Ванда, ск. 8 кл. гімн. і курсы пчалярства, пас. ня мае.
70. Дзяргач Віктар,—вестак німа.
71. Каляда Фэлікс, — вестак німа.
72. Кузьміна Галіна, — вестак німа.
73. Казлоўская, — вестак німа.

Умовы заняткаў на курсах былі даволі цяжкія — слухачы былі перагружаны працаю, бо адначасна з беларусазнаўствам слухалі і курсы латыскае мовы, якія адбываліся ў Дзьвінску для меншасьцёвых настаўнікаў, — але агульны настрой і ўздым большае часткі слухачоў быў надзвычайна высокі: яны з захопленьнем слухалі курс гісторыі Беларусі, гісторыі беларускае літэратуры, гісторыі беларускага адраджэньня, географіі Беларусі і старанна падганялі і ўдасканалівалі веданьне беларускае мовы, аб граматыцы і слоўніку якой многія з курсантаў да паступленьня на курсы нават і ня ведалі.

Курсы Беларусазнаўства закончылі сваю працу 31-га жніўня. Тыя настаўнікі, якія акуратна адведвалі заняткі і выказалі задавальняючыя посьпехі ў праслуханым курсу, атрымалі пасьведчаньні за подпісам лектароў і загадчыка курсаў. Пасьпяхова скончылі курсы ніжэйпералічаныя 20 грамадзян:

1. Цішкевіч Марыя.
2. Шаршун Алена.
3. Кокіна Леонарда.
4. Белякова Вера.
5. Жук Віктар.
6. Земец Антон.
7. Чыжэвіч Марыя.
8. Салаўёў Аўген.
9. Салаўёў Аркадзь.
10. Юкша Настасься.
11. Васілеўскі Зыгмунд.
12. Васільева Вольга.
13. Хмялеўскі Мікалай.
14. Астроўскі Філіцыянт.
15. Дубавік Канстантын.
16. Сасноўская Марыя.
17. Сямёнава Кацярына.
18. Заліўскі Сьцяпан.
19. Шостак Ігнат.
20. Ермачонак Ганна.

Шмат працы на гэтых першых курсах Беларусазнаўства ў Латгаліі прышлося пакласьці лектаром, асабліва гр. Ігнату Дварчаніну, які бязвыездна працаваў у Дзьвінску праз увесь час курсаў і трымаўся ў самым цесным кантакце з курсантамі, аддаючы ім увесь свой вольны час і кіруючы рознымі гурткамі, якія з яго ініцыятывы закладзены былі на курсах. З гэтых гурткоў асабліва значную працу правёў Драматычны гурток, які потым, пасьля зачыненьня курсаў, паклаў аснову Драматычнай Дружыны пры Т-ве „Бацькаўшчына“.

20 настаўнікаў, выпушчаных Першымі Летнімі Курсамі Беларусазнаўства ў Дзьвінску, аказаліся, хаця і насьпех, але даволі добра падрыхтаванымі вучыцялямі для першых беларускіх вясковых школ на Дзьвіншчыне. Таму Т-ва пачало дамагацца адчыненьня некалькіх беларускіх школ у Дзьвінскім павеце, у першую чаргу ў Пустынскай і Прыдруйскай валасьцёх, дзе больш за 90% жыхарства зьяўляецца беларусамі.



**Першыя летнія курсы Беларусазнаўства для вучыцялёў Дзьвіншчыны і Ілукштаншчыны ўлетку 1921 году.** У сярэдзіне сядзяць: школьны інспэктар Дзьвіншчыны — Лука Азолінь, і лектары курсаў: К. Езавітаў і Ігнат Дварчанін.

Вымогі Т-ва былі задаволены Дзьвінскаю павятоваю Школьнаю Радаю — і з восені 1921 году ў памянёных двух валасьцёх адчыніліся першыя 16 беларускіх аснаўных школ у Латвіі, у якія былі прызначаны настаўнікі, праслухаўшыя летнія курсы беларусазнаўства ў Дзьвінску.

Захады Т-ва „Бацькаўшчына“ аб стварэньні гэткіх жа курсаў беларусазнаўства ў Люцыну для настаўнікаў-беларусаў Люцыншчыны — па невядомых для нас прычынах — ня былі прыняты пад увагу, і такім чынам—Люцыншчына, перад пачаткам 1921-22 навучальнага году, аказалася без падрыхтаваных настаўнікаў-беларусаў. Гэта дужа шкодна і балюча адбілася потым на агульным стане беларускае культурна-асьветнае працы ў Люцыншчыне і асабліва на стане і жыцьцю беларускіх аснаўных школ, якія, ня гледзячы на тое, што падрыхтаваных настаўнікаў не было, усё-ж-ткі ў працягу 1921-22 навучальнага году былі аснаваны ў Люцыншчыне. Усё, што змагло ў 1921 годзе зрабіць для настаўнікаў-беларусаў Люцыншчыны Цэнтральнае Праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ і яго Люцынскі аддзел — гэта арганізаваць у верасьні месяцы некалькі паасобных лекцый і рэфэратаў-гутарак, праведзенных гр. гр. І. Дварчаніным і К. Езавітавым на актуальныя тэмы беларускага адраджэнчага жыцьця.

Тым часам, узварушанае летнімі курсамі беларускае грамадзтва ў Дзьвіншчыне пачало выяўляць сваю ініцыятыву — моладзь і праслухаўшыя курсы настаўнікі, шукалі магчымасьці ўнесьці і сваю долю працы ў беларускі адраджэнчы рух. Найболь актыўныя з іх, пры ідэёвай дапамозе гр. Ігната Дварчаніна ды пры некаторай грашовай дапамозе з боку аўтара гэтага артыкулу, заклалі ў Дзьвінску першую Беларускую Драматычную Дружыну пры Т-ве „Бацькаўшчына“. (Працяг будзе). **К. Езавітаў.**

**Францішак Аляхновіч.**

# У ЛЯСНЫМ ГУШЧАРЫ.

Казка ў I акце, для дзяцей малодшага веку.

**Асобы:**

Дзіця. Баба-Яга. Бай. 1-е Ліха. 2-е Ліха. Зьвяры ды рознае страхоцьце.

Лес. Сонца захавалася за небасхіл. На сцэну ўваходзіць Дзіця з кошыкам ягад.

**Зьява I. Дзіця** (адно).

Дзіця *(кліча)*. Го-го-го! *(Гавора)*. Ах, што-ж мне рабіць? Вось блутаюся ды блутаюся па лесе, а дарогі да хаты ніяк не магу знайсьці!.. Ужо сонэйка зайшло, ўсе ў хаце вячэраюць, а я тутака спатыкаю ноч,—у гэтым гушчары. I есьці хочацца і страх бярэ! *(Узіраецца у кошык, цягнецца рукою па ягады, потым аддзергівае руку)*. Не! — Гэтыя ягадкі я абяцалася назьбіраць для мамы; ня буду іх чапаць, няхай будзе поўны кошычак... Нідзе ня відаць дарогі!.. Нейкае знаёмае мейсца!.. Трэба яшчэ паклікаць, мо нехта адклікнецца... *(Кліча)*. Го-го-го! *(За сцэнай чуваць адказ:* Го-го-го!)

Дзіця. Вось, здаецца, нехта адклікнуўся! Пакажуць мне дарогу да хаты... *(Ізноу кліча)*. Го-го-го!.. *(Углядаецца і гавора)*. Ось, бачу, ідзе сюды якаясь бабулька з кійком у руцэ... Ну, цяпер ужо няма чаго баяцца: яна пакажа мне дарогу або пераначаваць дазволіць у сябе.

**Зьява 2. Дзіця і Баба-Яга** (уваходзе).

Баба-Яга. Ты чаго тут крычыш - гукаеш дый палохаеш маіх зьвяроў і птушак? Лес ужо сьпіць!.. Чуеш?—ужо ціш! Кожная птушка, траўка, матылёк, кожнае дзераўца хоча сапачыць...

Дзіця. Бабулька! Пайшла я ў лес па ягадкі дый заблудзілася. Даўно ўжо дарэмна шукаю дарогі да хаты. Нідзе няма жывой душы, каб вывесьці мяне куды трэба... Бабулька! мо' ты скажаш мне кудой ісьці?

Баба-Яга. А, заблудзілася!.. *(Хітра)*. А ягадкі свае ты мне дасі? Я сягоньня нічагусенькі яшчэ ня ела...

Дзіця. Я гэтыя ягадкі зьбірала для сваей хворай мамы, але калі ты галодная, дык маеш—бяры. Я заўтра зноў для мамы назьбіраю.

Баба-Яга. Ну, добра... Калі так, дык я дам табе магчымасьць вярнуцца дамоў... *(Дае клубок)*. Вось, маеш клубок, — кінь яго на зямлю і скажы: „Клубочак! каціся-каці, — мяне да хаты давядзі"!.. Ен пакоціцца, а ты ідзі за ім, і ён цябе давядзе аж да самай хаты, і тады скрозь зямлю праваліцца... Ды толькі памятай: ідзі наперад, усё наперад за клубочкам, нікуды не аглядайся, нічога не палохайся ды ня спускай вачэй з клубочка, — бо, калі не паслухаеш мяне, клубочак ад цябе уцячэ, а ты ізноў заблудзісься. А калі ў другі раз прыдзеш у мой лясны гушчар, тады ўжо дабра табе ня будзе! Я — Баба-Яга, ўсіх ведзьмаў гаспадыня! Цяпер я зьлітавалася над табой, бо ты дала мне выкуп—ягадкі свае, а ў другі раз я цябе зьем. *(Выходзе)*.

**Зьява 3. Дзіця** (адно).

Дзіця. А, матулька-ж ты мая! Дык гэта-ж ведзьма! Ах, як добра, што яна зьлітавалася і дала мне гэты заварожаны клубочак — ён мяне завядзе да хаты, да маей мамы. Мамка-ж нецярпліва мяне чакае і плача цяпер, пэўна, бедненькая... Ну, трэба-ж худчэй уцякаць адсюль і зрабіць, як казала Баба-

Яга. *(Кідае клубок на зямлю).* Клубочак! каціся-каці—мяне да хаты давядзі! Кубочак! каціся-каці — мяне да хаты давядзі!.. *(Клубок коціцца. Дзіця ідзе за ім).*

**Зьява 4. Два Ліхі** (убегаюць з розных бакоў).

1 Ліха. Чуў?

2 Ліха. Але!

1 Ліха. Трэба клубок адабраць!

2 Ліха. Трэ' напалохаць дзіця!

1 Ліха. Дарогу памыліць!

2 Ліха. Дзіця бяжыць...

1 Ліха. Клубок перад ім...

2 Ліха. Яно за ім...

1 Ліха. Бяжыць, бяжыць...

2 Ліха. Трэ' даганяць!

1 Ліха. Клубочак узяць!

1 і 2 Ліха. Хутчэй, хутчэй!

2 Ліха. Я вагністай куляй дарогу перабягу.

1 Ліха. Я вялізарнай жабай гляну з паміж кустоў.

1 і 2 Ліха *(разам).* Хутчэй, хутчэй! *(Выбегаюць у той бок, куды пайшло дзіця).*

**Зьява 5.**

На сцэну ўходзяць Зьвяры і рознае Страхоцьце. Скачуць нейкі фантастычны танец. Пасьля першы Страх гавора.

1 Страх. Ціха! там нехта ідзе!

Усе. Дзе?

1 Страх *(паказвае рукой).* Вось там!.. Нейкае дзіця!..

Усе *(углядаюцца).* Дзіця...

1 Страх. Хавайцеся!

Усе. Хавайцеся! *(Разьбегаюцца у розныя бакі).*

**Зьява 6. Дзіця** (уваходзе).

Дзіця. Ізноў я зьбілася з дарогі! Клубочак каціўся ды каціўся, я ішла за ім... Раптам пачаліся страхі: з гушчары выкацілася якаясь аграмадная куля... Пасьля раптам паміж кустоў нешта страшэнна запішчэла. Глянула я, ажно там агромністая жаба, вялікая, як хата, а вочы так і блішчаць, быццам лямпы якіясь... Я страшэнна спалохалася, заплюшчыла вочы, пасьля гляджу —ажно майго клубочка ўжо няма! Недзе прапаў, як камень у ваду... Што мне рабіць? Зусім я замарылася! Трэба будзе хіба тутака пераначаваць, ці што, а заўтра, як толькі сонейка ўзойдзе, трэ' будзе ізноў шукаць дарогу... Там мамачка мая, заплачацца, мусіць бяз мяне! Ах, Божа мой, вось дык няшчасьце! У другі раз так далёка па ягадкі не пайду... Ну, тут пад гэтым кусьцікам засну, трэ' яшчэ толькі памаліцца... *(Укленчыушы гавора):* О, Боже мой, мей літасьць нада мной заблуджанай! Нікога тут німа, хто-б пашкадаваў мяне, адна ў лесе начаваць тут буду я... О, Божанька Ты мой! Дай маме супакой, а мне сон ціхі дай! *(Кладзецца пад кусьцікам і засынае).*

**Зьява 7. Дзіця і лясныя духі** (памалу ўваходзяць).

1 Страх. Бач! Яно сьпіць!

2 Страх. Што нам рабіць? Гульню нам папсавала. Цяпер спаткаць яе павінна кара: няхай сьніць — сон страшны! *(У скоках пачынаюць кружыцца навокал Дзіцяці).*

**Зьява 8. Тыя-ж і Баба-Яга** (уваходзе).

Баба-Яга. Вы тут чаго? Пара вам спаць! Ня чулі, што певень ужо пяяў? А кыш! Пара вам спаць, а ня гульні спраўляць! А кыш! а кыш! а кыш! *(Страхоцьце разьбегаецца у розныя бакі).*

**Зьява 9. Баба-Яга і дзіця, пасьля Ведзьмы.**

Баба-Яга *(падыходзе да Дзіцяці).* А—ты ізноў тутака! Не паслухала маей перасьцярогі, ну, цяпер ужо блага табе будзе! *(Кліча):* Гэй, ведзьмы! *(Ведзьмы убягаюць).* Распалеце агонь у маей хатцы на курынай лапцы, — будзем вячэру сабе гатаваць! *(Ведзьмы выбегаюць).* Ну, дзетачка, уставай! У першы

раз я зьлітавалася над табой; дала табе клубок і перасьцярогу, цяпер — у другі раз — ты згінеш-прападзеш! Вось зара мы цябе зьямо!

Д з і ц я (*абудзіушыся*). Ай, ведзьмачка, цётачка, бабулечка! Пусьці! ня еш мяне!

Б а б а - Я г а. Хадзі! (*Цягне дзіця за руку*). Пакуль мае слугі распаляць у печы вагонь, я зачыню цябе ў складзіку. Хадзі!

Д з і ц я. Ай, ведзьмачка, Ягінечка, бабулечка, пусьці мяне! Ня еш мяне... цётачка!.. (*Выходзяць*).

**Зьява 10. Два Ліхі** (убегаюць).

1 Л і х а. Чуў?

2 Л і х а. Але.

1 Л і х а. Ускладзік ведзьма зачыніла.

2 Л і х а. Там яму будзе сьмерць-магіла.

1 Л і х а. Трэба на злосьць ведзьме зрабіць!

2 Л і х а. Трэба дзіця выпусьціць!

1 і 2. Хутчэй! хутчэй! (*Выбегаюць у той бок, кудой пайшла Баба-Яга*).

**Зьява 10. Бай** (уваходзе).

Б а й. Я—Бай завуся. Так мяне клічуць, калі на дзетак сон не прыходзе. „Баенькі-баю“ маці сьпявае і ў калысцы дзіця качае. Я—Бай завуся, усе так клічуць і добрым словам мяне вітаюць, бо я ніколі людзям ня шкоджу,—сон на душу ім навеваю... Я — Бай! Людзі кажуць ня раз: „Ішоў Бай па сьцяне ў чырвоным жупане, ці баіць, ці не?“ —Я кажу не,—не па сьцяне, я тут у лес, у гушчар залез; думка ў мяне ў галаве, каб ратаваць дзіця. Ведзьма ўжо хоча яго ў кацёл кідаць ды гатаваць на агні. Каб уцякло адтуль яно, памогуць мне Ліхі, а як далей яго ратаваць, я ведаць-знаць ужо буду сам.

**Зьява 12. Бай і Дзіця** (убегае).

Д з і ц я. Бай! Бай! Ратуй мяне! Ведзьма хацела мяне зьесьці! У складзік зачыніла ды вось Ліхі выпусьцілі мяне. Бай! Бай! ратуй мяне! Баба-Яга, як пабачыць, што мяне там няма, будзе гнацца за мной, дагоне, спаймае і зьесьці мяне! Бай-Баіньку, ратуй! (*Плача*).

Б а й. Ня плач, дзетанька, я цябе выратую. Вось маеш попелу з-пад вагню купальскага. (*Дае Дзіцяці мяшочак з попелам*). Баба-Яга з іншымі ведзьмамі будзе гнацца за табой. Як будуць ужо блізка, вазьмі жменю гэтага попелу і кінь на одлек: тады ты засыпеш ведзьмам вочы попелам, і яны ад яго асьлепнуць і разьляцяцца па лесі, як васеньнія лісьця, калі іх сівер закружыць па полю... А ты тады ўцякай! (*Выходзіць*).

Д з і ц я. О, дзякую табе, мой добры Бай!

**Зьява 13. Дзіця, Баба-Яга і іншыя ведзьмы** (убегаюць).

Б а б а - Я г а. Трымайце! хапайце! Вось яно!

Д з і ц я (*сыпле на адлек попел*).

В е д з ь м ы (*з піскам разьбягаюцица і, асьлепнуушы, хапаюць адна адну*).

Д з і ц я. Вось вам, паганыя ведзьмы, за тое, што хацелі мяне зьесьці! Круціцеся тут, як сухія лісьця, калі сівер загудзе, — а я ўцякаю да мамы!.. (*Выбегае*).

З а с л о н а. К а н е ц.

**Ф. Аляхновіч.**

## Удзел беларусаў ва „Усеславяскім Зборніку“.

У 1925 годзе споўнілася тысячагодзьдзе закладзінаў Харвацкага Каралеўства. З гэтага поваду Аб'яднаньне Славянскіх Таварыстваў у Загрэбе выпусьціла вялікую юбілейную кнігу пад назовам „VSESLAVENSKI ZBORNIK. Spomenica o tisučugodišnjici Harvatskoga Kraljevstva“. Zagreb. 1930.

Гэты юбілейны „Усеславянскі Зборнік“, па думцы яго ініцыятараў, павінен быў ня толькі адмеціць найцікавейшую для ўсяго славянскага сьвету гадавіну стварэньня харвацкае дзяржаўнасьці, але разам з тым быць спробаю навязаньня цясьнейшага стыку інтэлектуальных сіл розных славянскіх народаў, быць своеасаблівай дэманстрацыяй славянскае салідарнасьці і супрацаўніцтва. Каб зьдзейсьніць гэтыя мэты, Аб'яднаньне Славянскіх Таварыстваў у Загрэбе (Zajednica Slavenskih Društava u Zagrebu) зьвярнулася да прадстаўнікоў навукі і грамадскасьці усіх славянскіх народаў з прапазыцыяй прыняць удзел у выданьні юбілейнага зборніку, шляхам надсылкі адпаведных стацей. Выбар тэмы залежаў ад вольнага выбару кожнага паасобнага вучонага або пісьменьніка, а напісаны стацьці павінны былі быць на роднай мове кождага ўдзельніка зборніка, пры чым і друкавацца ў зборніку стацьці павінны былі ў мове арыгіналу, каб рэпрэзэнтаваць у зборніку ўсе славянскія народы на іх роднай мове.

Прыгожая думка Аб'яднаньня спаткала шырокі водгук ва ўсіх славянскіх краінах. У працягу двух год зьбіраліся і надсылаліся з усіх бакоў у Загрэб матарыялы. Асаблівая Рэдакцыйна-Выдавецкая Камісія, у складзе — старшыні Міколы Андрыча, сяброў — Франя Бучара, Стэфана Іўшыца, Павала Юшыца, Срэчко Кірына, Ільлі Міларова і Язэпа Нагі, упарадкавала надасланыя працы, падрыхтавала адпаведныя шрыфты і ў 1930 годзе выпусьціла, нарэшці, у сьвет „Усеславянскі Зборнік“, у які ўвайшло 35 стацей на 10 славянскіх мовах.

Найбольшы лік стацей далі харвацкія вучоныя — 8 прац, за імі ідуць маскоўцы — 6 прац, на трэцім мейсцы стаяць беларусы — 5 прац, на чацьвёртым чэхі — 4 працы, далей баўгары — 3 працы, украінцы — 3, лужыцкія сэрбы — 2, словене, сэрбы і палякі далі па 1 працы і адна праца зьяўляецца перакладзенаю з нямецкае мовы на харвацкую.

Працы харвацкіх вучоных, а таксама сэрба і словена, датычаць гісторыі, археолёгіі і сучаснага быту харвацкага народу; баўгарскія вучоныя разглядаюць гісторыю ўзаемаадносін паміж паасобнымі паўднёва-славянскімі народамі ў мінуўшчыне; чэхі прысьвяцілі свае працы разгляду славацка - харвацкіх узаемаадносін у Аўстрыйскай дзяржаве, а таксама даюць апісаньні ўражаньняў і нагляданьняў у часе сваіх паездак па сучаснай Харваціі; маскоўцы зачапілі тэмы літаратурныя, гісторыю ўзаемаадносін Расіі і славянскіх Балкан, а таксама і палітычныя тэмы аб сучасным стане расейскага пытаньня; вельмі важнае пытаньне падняў у сваей стацьце ўкраінскі прафэсар М. Грушэўскі, які дамагаецца пастаноўкі на праўдна навуковы грунт параўнаўчай гісторыі славянскіх літэратур; лужыцкія сэрбы далі агляд сваіх узаемаадносін да паўднёвага славянства і слоўнікавых багацьцяў сэрбалужычан; адзін польскі ву-

чоны, Освальд Бальцэр з Львова, даў гістарычна-юрыдычны нарыс аб князёўскіх паборах на славянскіх абшарах у мінуўшчыне.

З пяці прац, дадзеных беларусамі, тры працы напісаны па-беларуску і дзьве працы на расейскай мове. Па-беларуску надрукованы стацьці: акадэміка Яўхіма Карскага — „Сатырыка-камічныя творы беларускае літэратуры“, праф. Пятро Бузука — „Да характарыстыкі дыялектаў пaўднёва-беларускіх і пераходных да ўкраінскіх“ і Кастуся Езавітава — „Беларусь у мінулым і сучасным“. На расейскай мове зьмясьцілі свае творы: прафэсар Аляксандр Вазьнясенскі — „Современный белорусский театр“ і прафэсар Аўген Ляцкі — „З поваду новае кнігі аб Крыжанічы“.

У канцы кнігі ўсе стацьці не-харвацкіх аўтараў каротка, але грунтоўна рэфэраваны па харвацку для харвацкага чытача, незнаёмага з іншымі славянскімі мовамі.

Для беларускага чытача „Усеславянскі Зборнік“ цікавы ня толькі зьмешчанымі ў ім артыкуламі аб Беларусі і беларускай мове, літаратуры, гісторыі і тэатры, але і тым, што праз гэты зборнік кожды беларускі інтэлігэнтны чытач можа практычна пазнаёміцца з мовамі немаль усіх славянскіх народаў, асабліва з мовамі паўднёвага славянства. Таму зборнік гэты павінен зрабіцца аднэй з пашыраных кніг на Беларусі і асабліва ў беларускіх навуковых і гімназіяльных бібліатэках.

Аб тым, якое значаньне для прапаганды беларускае адраджэнчае ідэі і беларускае мовы мае самы факт удзелу беларусаў ва „Усеславянскім Зборніку“, мы спыняцца ня будзем — гэта зразумела кожнаму.

**К. Адраджэнец.**

## Да пяцігодзьдзя Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі.

25 сакавіка 1927 году ў Рызе было закладзена „Таварыства Беларускага Тэатру ў Латвіі“. Мэтаю Т-ва было аб‘еднаць і ўплянаваць тэатральныя пачынаньні паасобных беларускіх дзеячоў і таварыстваў, робленыя ў розных мястох Латвіі, пачынаючы з 1921 году. Практыка беларускіх тэатральных пачынаньняў паказала, што ні паасобным грамадзянам, ні нават паасобным таварыствам не пасілах стварыць і, галоўнае, утрымаць сталы Беларускі Тэатр.

Так у 1921 годзе ў Дзьвінску, пад рэжысурай артысты Сьцяпана Заліўскага і пры ідэёвай і матар‘яльнай падтрымцы гр. гр. Ігната Дварчаніна і Канстантына Езавітава, распачала працаваць першая ў Латвіі Беларуская Драматычная Дружына. Яна прапрацавала з вялікім посьпехам цэлы сэзон, аднак змушана была спыніць сваю працу, бо артысты ня мелі магчымасьці жыць у Дзьвінску з сваіх артыстычных заробкаў і змушаны былі раз‘ехацца па вёсках, дзе атрымалі пасады настаўнікаў у беларускіх школах (у Дзьвінску ўлетку 1921 году ўсе яны праслухалі настаўніцкія курсы і мелі права выкладаньня навук ў беларускіх школах).

У наступным 1922 годзе, з ініцыятывы гр. Эдварда Будзькі, які кіраваў з пачатку 1922 году Беларускімі Дзяржаўнымі Вучыцельскімі Курсамі ў Дзьвінску, і пры падтрымцы тагачаснага інспэктара беларускіх школ у Латгаліі, гр. К. Езавітава, стварылася 2-я Беларуская Драматычная Дружына, рэжысура ў якой была ўскладзена на маладога артыста-аматара Язэпа Камаржынскага. Рэжысор і артысты былі аднначасна слухачамі Беларускіх вучыцельскіх курсаў. Гэтая драматычная дружына таксама прапрацавала адзін сэзон і, непадтрыманая сваячасна і ў належнай меры беларускім грамадзтвам і т-вам „Бацькаўшчына“,—таксама раз‘ехалася па вёсках на вучыцельскія пасады. Было гэта добра з аднаго боку, бо настаўнікі-артысты адразу рабіліся вясковымі рэжысорамі і рабілі вучнёўскія пастаноўкі на вёсках ды арганізоўвалі вясковыя аматарскія драматычныя дружыны з вясковае беларускае моладзі, але была тутака і кепская старана, бо арганізацыя сталага Беларускага Тэатру ў Латвіі тым самым затрымоўвалася і штогод справу трэба было пачынаць спачатку.

Наступныя гады прайшлі ў такіх спро-

бах і аматарскіх пастаноўках па ўсей Латгаліі і нават у Рызе. Асабліва пры гэтым вызначыліся пастаноўкі Дзьвінскай і Люцынскай беларускіх гімназій, праца драматычных гурткоў пры таварыствах „Рунь“ і „Беларуская Хата“ у Рызе, пастаноўкі ў Пустыншчыне і ў Прыдруйшчыне, робленыя сіламі сялянскае моладзі пад кіраўніцтвам вучыцялёў Язэпа Камаржынскага і Міколы Талеркі, ды пастаноўкі Аддзелу Т-ва „Бацькаўшчына“ у Краслаўцы.

У лютым 1926 году была зроблена трэцяя спроба заклясьці сталы беларускі тэатр — на гэты раз у Рызе: таварыства „Беларуская Хата“ 20 лютага адкрыла ў сваім будынку на Сымонаўскай вуліцы № 14-16 Беларускі Народны Тэатр. Аднак і гэтая спроба скончылася няўдачаю: тэатр праз месяц спыніў сваё існаваньне з-за недахопу сродкаў.

Тады справа Беларускага Тэатру ў Латвіі была пастаўлена на грамадзкае абгавораньне. У кастрычніку месяцы таго-ж 1926 году газэта „Голас Беларуса“ распачала кампанію за стварэньне асобнага Беларускага Тэатральнага Т-ва, якое сканцэнтравала-б усю тэатральную працу беларускае меншасьці ў сваіх руках, адкрыла-б сталы тэатр і дамагалася бы ўрадовай дапамогі. Кампанія гэтая скончылася памысна: з'арганізавалася група ініцыятараў, з К. Езавітавым на чале; быў складзены, а затым і праведзены праз Рыскі Акруговы Суд адпаведны статут, які зацьверджаны 23 сакавіка 1927 году, а 25 сакавіка ўжо адбыўся першы сход Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі і сьледам за тым распачаліся студыйныя заняткі з беларускімі аматарамі ў Рызе і ў Дзьвінску. Праз год упартай працы адкрылася 2 беларускіх народных тэатры: адзін 24 сакавіка 1928 году ў Рызе, а другі ў Дзьвінску.

* * *

9-га красавіка 1932 году Рыскі Беларускі Народны Тэатр сьвяткаваў 4-я ўгодкі сваей працы, а уласьнік его, Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі, сьвяткавала пяцігодзьдзе сваей працы. Ставілася пьеса І. Тагабочнага — „Змагары за ідэю“. Пастаноўка гэтая паказала, што за пяць год працы беларуская тэатральная справа ў Латвіі значна вырасла і ўмацавалася. Студыйныя працы, ведзеныя над шэрагам пастаўленых тэатрам пьес, узгадавалі сямейку маладых беларускіх артыстаў і далі ім моцны штурчок да разьвіцьця сваіх здольнасьцяў. Былое аматарства з усімі сваімі недахопамі паступова і цьвёрда пераходзе ў профэссыялізм.

Маладому Рыскаму Беларускаму Народнаму Тэатру за чатыры гады сваей працы прыйшлося працаваць з некалькімі рэжысорамі і з даволі цякучым складам артыстаў, але ў апошнія два гады склад тэатральнага калектыву ужо можна лічыць канчаткова стабілізаваўшымся: сучасныя артысты зьяўляюцца сталымі жыхарамі м. Рыгі, зьвязаны з ею сваімі службовымі пасадамі, а гэта дае ім магчымасьць удзельнічаць у працы тэатру незалежна ад матарыяльных вынікаў паасобных пастановак. Паскольку справа з артыстамі стаіць ужо добра, дык справа з рэжысурай зьяўляецца да гэтага часу хворым мейсцам у Рыскім Беларускім Народным Тэатру. Тыя дапамогі, што атрымала Т-ва Беларускага Тэатру ад Латвійскага Ўраду, ідуць галоўным чынам на ўтрыманьне рэжысуры, бо да гэтага часу свайго беларускага рэжысора тэатр ня мае і яму прыходзіцца шмат плаціць рэжысорам-латышам і расейцам, якія прыходзяць працаваць у Беларускі Тэатр ня столькі з мэтамі ідэёвымі, колькі з жаданьнем зарабіць „на старане“, не накідаючы сваей аснаўной артыстычнай працы ў сваіх нацыянальных тэатрах.

На адчотнай пастаноўцы 9-га красавіка сваей гульнёй асабліва выдзеліліся: Я. Каяла (Калістрат), які даў жыцьцёвы тып жорсткага кулака; А. Доўгі (Антон), што бяз лішняга пазёрства правёў ролю ідэёвага працаўніка-вяскоўца; дужа колерныя фігуры басякоў далі гр. гр. Я. Камаржынскі (Ахрэм) і А. Тіхаміраў (Трахім); гр. Г. Бедарава надзвычайна цёпла і таланавіта згуляла наймітку Ганну; таланавіты беларускі паэта Пятро Масальскі паказаў сябе здольным артыстым у ролі Нічыпара Лысяна.

Пасьля спэктаклю адбылася сяброўская гарбата, на якой прадстаўнікі беларускага грамадзтва абмяняліся думкамі аб ролі беларускага тэатру ў беларускай адраджэнчай працы, а таксама і аб кірунку, у якім павінен працаваць Рыскі Беларускі Народны Тэатр.

У прамовах Ул. Пігулеўскага, М. Дзямідава і К. Езавітава былі адзначаны дасягненьні Рыскага тэатру і канстатавана, што найбольшым посьпехам карысталіся ў гледачоў бытавыя пастаноўкі і пьесы з сацыяльна-адраджэнчым зьместам. У гэтым кірунку і трэба працаваць над сваім рэпэртуарам Беларускаму Тэатру.

* * *

У наступным сэзоне адсьвяткуе сваё пяцігодзьдзе Дзьвінскі аддзел Т-ва Беларускага Тэатру ў Латвіі. Праца Дзьвінскага Беларускага Народнага Тэатру, утрымоўваемага гэтым Аддзелам, аказалася вельмі прадукцыйнай: як па ліку сваіх пастановак, так і па матар'яльных і ідэёвых выніках сваей працы. Тлумачыцца гэта тым, што Дзьвінскі тэатр бліжэй знаходзіцца да этнаграфічнай беларускай тэры-

торыі і можа абслугоўваць у Дзьвінску і яго ваколіцах больш шырокі круг беларускага грамадзтва, а таксама мае магчымасьць часьцей выяжджаць у беларускія воласьці і ставіць спэктаклі для сялянства. Аб працы Дзьвінскага Тэатру мы яшчэ пагутарым асобна.

Цікава адзначыць, што 1-га верасьня 1932 году споўніцца ўжо 11 год з дня першага беларускага спэктаклю ў Латвіі, зладжанага 1 верасьня 1921 году Беларускаю Драматычнаю Дружынаю пры Т-ве „Бацькаўшчына“ у Дзьвінску, у зале Дзьвінскага мястовага клюбу. Такім чынам можна лічыць, што наступаючы сэзон 1932-33 году будзе ўжо дванаццатым годам беларускае тэатраельнае працы ў Латвіі.

**Тэатрал**

Латвія, Рыга, 10 красавіка 1932 г.

# Беларусы у Літве.

I.

Згодна першага Усерасейскага перапісу 1897 году ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі пражывала 70.300 беларусаў. Аднак, першы Літоўскі дзяржаўны перапіс жыхарства, зроблены ў 1923 годзе, паказаў для беларусаў вельмі малую лічбу — усяго 4.400 чалавек. Такім чынам лічба беларускага жыхарства ў Літве за час вайны і рэвалюцыі зьменшылася, нібы-та, аж у 20 разоў. Калі прыгледзіцца да ніжэй друкуемай табліцы этнаграфічнага складу Літвы, дык мы ўбачымо, што агульнае зьменшаньне жыхарства і паасобных нацыянальнасьцяў зусім не такое катастрафічнае, як гэта выявілася для беларусаў, а гэта азначае, что ў справе падлічэньня лічбы беларусаў, пад час перапісу 1923 году, адбыліся нейкія недарэчнасьці. Лічба беларусаў у сучаснай Літве павінна быць у добры дзесятак разоў большаю. Калі параўнаць вынікі перапісу 1897 году з вынікамі перапісу 1923 году, дык атрымаемо гэткую табліцу:

| Нацыянальнасьць. | Згодна перапісу 1897 г. | | Згодна перапісу 1923 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Лічба жыхарства. | % % | Лічба жыхарства. | % % |
| Літоўцы | 1.385.600 | 66,7 | 1.701.900 | 83,9 |
| Жыды | 261.200 | 12,2 | 153.700 | 7,6 |
| Палякі | 176.800 | 8,8 | 65.600 | 3,2 |
| Расейцы | 91.900 | 4,5 | 50.500 | 2,5 |
| **Беларусы** | **70.300** | **3,4** | **4.400** | **0,2** |
| Немцы | 47.000 | 2,3 | 29.200 | 1,4 |
| Латышы | 35.200 | 1,7 | 14.900 | 0,7 |
| Іншыя | 2.200 | 0,1 | 1.600 | 0,1 |
| Чужаземцы | 6.600 | 0,3 | 7.200 | 0,4 |
| Разам | 2.076.800 | 100,0 | 2.029.000 | 100,0 |

Разгледзіўшы ўважліва гэтую табліцу (узята намі з „Географіі Литвы“ — А. І. Тымінскага, Каunas, 1931 г., старонка 11-я), мы павінны прыйсьці да перакананьня, што значная частка беларусаў па вераспаведальнаму прынцыпу была аднесена да расейцаў (праваслаўныя) і да палякаў (частка каталікоў-беларусаў). Такое аднясеньне зусім магчыма, бо ступень нацыянальнае сьвядомасьці сярод вясковага беларускага жыхарства была дужа малая, а па гарадох і

мястэчках Літоўскай Рэспублікі, у той час не існавала ніякіх беларускіх меншасьцёвых арганізацый. Расейцы-ж і палякі, якія з першых дзён існаваньня Літоўскае дзяржавы заклалі свае меншасьцёвыя арганізацыі і школы, здолелі захапіць уплыў на беларускую масу і трымаюць большасьць яе пад сваімі ўплывамі аж да гэтага часу. Такім чынам у межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі адбываецца далей векавечны працэс апалячываньня і абмаскаліваньня крывіцка-беларускага жыхарства.

Хто вінны ў стварыўшымся стане рэчаў?

— Бязумоўна, больш за ўсіх вінны самі беларусы і тыя беларускія ўстановы, якія стала працавалі, або толькі гасьцявалі ў Коўне, але значная доля віны ляжыць і на тэй частцы палітычных кіраўнікоў Літвы, якія праглядзелі існаваньне беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі і аддалі гэтую меншасьць на расправу ў расейскія і польскія рукі.

Літоўская вялікая палітыка, у свой час больш цікавілася беларусамі ў Заходняй Беларусі, у Віленшчыне і Горадзеншчыне, ды ўстанаўленьнем кантакту з Беларускім эміграцыйным урадам Б.Н.Р., чым лёсам беларускае меншасьці, акая апынулася ў сучасных межах Рэспублікі. Тое-ж самае трэба сказаць і аб беларускіх арганізацыях, якія да 1927 году працавалі ў Коўне: яны таксама не заўважылі, што ў Нова-Аляксандраўшчыне, у Мерачы і іншых прымежных раёнах жыве значная беларуская маса, якой трэба даць і школу, і кнігу, і тэатр у беларускай мове.

Беларуская меншасьць у Літве не заўважалася кіруючымі літоўскімі і беларускімі палітыкамі таму, што абедзьве стараны не даацэнівалі таго, якое вялікае значаньне для абодвых народаў можа мець самы факт існаваньня беларускае меншасьці ў Літве, а таксама і магчымасьць праз яе ўстанавіць запраўды моцныя, шчырыя і прыязныя літоўска-беларускія адносіны, якія зараз-жа адазваліся бы і далёка па-за межамі Літвы, выклікаючы зьявы і чыннікі, якія зараз немагчыма нават у поўнай меры прадугледзіць, але якія бязумоўна ўмацоўвалі бы як стан Літоўскае Рэспублікі і прыязнь да яе ў Заходняй Беларусі, так і далейшае развіцьцё беларускага адраджэнчага руху ў розных краёх.

## II.

У працягу некалькіх год, пачынаючы з 1925 году, мы ня раз зьвярталі ўвагу—і праз газэту „Голас Беларуса“ і ў іншых выданьнях —на канешную патрэбу самаарганізацыі беларускае меншасьці ў Літве, у першую чаргу на грунце культурна-асьветным, каб спыніць далейшую русіфікацыю і полонізацыю беларускага жыхарства праз школы гэтых варожых нашаму адраджэньню меншасьцяў. Аднак час ішоў, патрэбнай ініцыятыўнай групы сярод беларускае меншасьці ў Літве не складалася і працэс уцягіваньня беларускае школьнае моладзі ў расейскія і польскія школы ўсё больш павялічаўся. У 1929 годзе, праз 10 год існаваньня незалежнае Літоўскае Рэспублікі, школьная справа ў Літве стаяла гэтак, як паказана ў табліцы.

| Тыпы школ | Літоўскія | Жыдоўскія | Польскія | Нямецкія | Латыскія | Расейскія | Беларускія | Мяшаныя | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **I. Пачатковыя школы** | **1997** | **135** | **91** | **22** | **10** | **91** | **1** | **29** | **2306** |
| клясовых камплект. у іх . . . . . . | 2738 | 246 | 126 | 36 | 13 | 26 | 1 | 38 | 3224 |
| Утрымоўваюцца: | | | | | | | | | |
| за кошт Міністэрства Асьветы . . . . . | 206 | 6 | — | — | — | — | 1 | 7 | 220 |
| самаўрадамі . . . | 2513 | 213 | 40 | 27 | 13 | 20 | — | 31 | 2857 |
| прыватн. арганізац. з дапамогай Ураду . | 17 | 14 | 2 | — | — | 5 | — | — | 38 |
| без падтрымкі за прыватныя сродкі . | 2 | 13 | 84 | 9 | — | 1 | — | — | 109 |
| **II. Вучыцельскія сэмінарыі** . . . . . . | **9** | **1** | — | — | — | — | — | — | **10** |
| з іх дзяржаўных. . | 5 | — | — | — | — | — | — | — | 5 |
| прыватных з дапамогаю Ураду . . . . | 4 | 1 | — | — | — | — | — | — | 5 |
| **III. Сярэднія школы, прагімназіі і курсы** | **64** | **17** | **1** | **2** | **1** | **1** | — | — | **86** |
| з іх: дзяржаўных . | 48 | — | — | — | — | — | — | — | 48 |
| з дапамог. ад Ураду | 13 | 4 | — | — | 1 | — | — | — | 18 |
| прыватных . . . . | 3 | 13 | 1 | 2 | — | 1 | — | — | 20 |
| **IV. Гімназіі і спэцыяльныя школы** . . | **36** | **11** | **3** | **1** | — | 1 | — | — | **52** |
| урадовых з іх. . . | 18 | — | — | — | — | — | — | — | 18 |
| з дапамог. ад Ураду. | 16 | 8 | 1 | 1 | — | 1 | — | — | 26 |
| прыватных . . . . | 3 | 3 | 2 | — | — | — | — | — | 8 |

Як бачым, на ўсю Літоўскую Рэспубліку існуе ўсяго адна беларуская пачатковая школа. Німа ні вучыцельскае сэмінарыі, ні гімназіі, ні якіх-колечы курсаў. Да і тая адзіная беларуская школа падпарадкавана Бюро расейскіх пачатковых школ пры Міністэрстве Асьветы Літвы. І гэта ў той час, як Літва рыхтуецца да атрыманьня ўлады над усею Віленшчынаю і добрым кавалкам Горадзеншчыны! Хто-ж будзе выкладаць у беларускіх школах Заходняе Беларусі? і хто будзе імі кіраваць? Ці ня тое-ж самае Бюро расейскіх школ? А мо' Бюро польскіх школ? Ці думае хто колечы аб кадрах настаўніцтва для беларускіх школ у будучыне?

**К. Езавітаў.**

(Працяг будзе).

## Хроніка беларускага жыцьця у Латвіі.

**Сход Рады Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы** прызначаны на 20-е чэрвеня а 10-й гадзіне зрана ў памешканьні міністэрства асьветы. У павестцы дня: 1) падзел буджэту на 1932-33 гаспадарчы год і 2) бягучыя справы. Яўка ўсіх сяброў Рады абавязковая.

**Вынікі выбараў ад настаўніцтва у Раду Беларускага Аддзелу.** У Раду Аддзелу ўваходзе: кіраўнік Аддзелу, 3-е прадстаўнікоў ад беларускіх грамадзкіх арганізацый (па аднаму прадстаўніку ад Т-ваў „Беларуская Хата“, „Рунь“ і „Асьветы“) і 3-е прадстаўнікоў ад беларускага настаўніцтва, якія абіраюцца закрытым галасаваньнем усіх вучыцялёў беларускіх школ у Латвіі, шляхам надсылкі ў Беларускі Аддзел асобых выбарчых білютэняў з прозьвішчамі кандыдатаў. На 1932-33 нав. год ад настаўніцтва ў Раду Ад-

дзелу абраны: К. Езавітаў (33 галасы), С. Сахараў (24 галасы) і Ул. Раткін (17 гал.).

**Канфэрэнцыя беларускага вучыцельства** склікаецца на 15-е і 16-е чэрвеня ў м. Дзьвінску а 10 гадзіне зрана, у зале Беларускае Дзяржаўнае гімназіі. Канфэрэнцыю склікае Рада праўленьняў Дзьвінскіх беларускіх арганізацый. Павестка дня гэткая: 1) Абраньне прэзыдыуму, 2) Даклад кіраўніка Беларускага Аддзелу, Ул. Пігулеўскага—„Беларуская школа ў Латвіі і яе перспэктывы на будучыню“, 3) Даклады вучыцялёў з мейц—аб становішчы беларускіх школ і стане беларускае справы ў іх раёнах, 4) Даклад М. Дзямідава — „Пазашкольная асьвета беларусаў“, 5) Даклад С. Сахарава — „Беларуская сярэдняя школа ў Латвіі“, 6) Даклад Ул. Раткіна —„Прафэсыйная адукацыя беларусаў“ і 7) Бягучыя справы.

**Беларуская Юбілейная Камісія,** абраная Радай Беларускага Аддзелу 16 ліпеня 1931 году для складаньня і выпуску асобнага зборніка-альманаха, прысьвячонага 10-цігодзьдзю беларускае школы ў Латвіі, прыступіла ўжо да выданьня зборніка пад агалоўкам — „Дзесяць год беларускае школы ў Латвіі. 1921—1931“. Камісія была абрана з трох асоб: Н. Пінскай, П. Журкоўскага і К. Езавітава, а за выхадам П. Журкоўскага—фактычна складалася ўсяго з двух грамадзян: Н. Пінскай і К. Езавітава. У сваей працы Камісія наткнулася на шэраг непрадбачаных перашкод: па-перш—з буджэту Беларускага Аддзелу, у зьвязку з эканамічным крызісам, былі выкрэслены сумы на выдавецтва; па-другое —кіраўнікі многіх школ, ня гледзячы на шматразовыя напамінаньня Камісіі, аж да гэтага часу не надаслалі ей прошаных ад іх вестак аб сваіх школах; па-трэцяе — тые, што весткі надаслалі, часта-густа далі ня поўныя інфармацыі, і аб іх прыходзілася запытывацца дадаткова. Каб пакласьці канец усім гэтым недапушчальным зьявам, Юбілейная Камісія ўхваліла прыступіць да друку ўжо сабранага матарыялу і надрукаваць частку матарыялаў аб школах у нашым часопісу, каб даць прыклад таго, у якім сэнсе павінны кіраўнікі школ складаць свае агляды. Разам з тым ухвалена прадоўжыць прыймо матарыялаў ад школ, якія іх яшчэ не надаслалі, да 1-га жніўня 1932 году. Кіраўнікі школ і настаўнікі, якія хочуць надаслаць свае зацемкі і ўспаміны запрашаюцца не адкладна надаслаць іх праз Беларускі Аддзел ці праз нашу Рэдакцыю ў Юбілейную Камісію.

**Да 80-цігодзьдзя беларускага тэатру.** Беларускае Выдавецтва ў Латвіі, у зьвязку з тым, што ў 1932 годзе споўнілася роўна 80 год з дня першае пастаноўкі ў Менску, 9 лютага 1852 году, першае беларускае камэдыі-опэры Ф. Дуніна-Марцынкевіча—„Сялянка“, —жадае надрукаваць юбілейнае выданьне гэтае пьесы і запрашае ўсіх беларускіх дзеячоў яшчэ раз зрабіць спробу адшуканьня загубленых нот опэры, напісаных кампазытарам Манюшкаю. Рэдакцыя нашага часопісу са свайго боку просіць віленскіх дзеячоў надаслаць у Рэдакцыю друкованы ў Вільні ў 1846 годзе ў друкарне Завадзкага тэкст гэтае камэдыі.

**Курсы латыскае мовы** для настаўнікаў беларускіх школ арганізуе з 1 ліпеня Дзьвінскі Аддзел Т-ва Беларускіх вучыцялёў. Скончыўшыя курсы атрымаюць права выкладаньня латыскае мовы ў беларускіх школах. Запіс на курсы прыймаецца ў старшыні Праўленьня Дзьвінскага Аддзелу Т-ва, гр. А. Барткевіча, Jātnīēku ielā № 13, dz. 4.

**Новая беларуская газэта у Латвіі** выходзе гэтымі днямі пад рэдакцыяй гр. М. Дзямідава. Газэту „Беларускае Жыцьцё“ выдае Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва „Беларуская Хата“. Адрас Рэдакцыі — Рыга, Чырвоная Дзьвіна, Сыманаўская вул., № 14-16. Газэта мае на мэце абслугоўваць беларускія Культурна-Асьветныя Таварыствы Латвіі і Літвы.

**Новыя беларускія кампазыцыі.** Былая выхаванка Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі і Латвійскае Кансэрваторыі, малады кампазытар Юлія Аляксандровіч, працуе зара над музыкальнай апрацоўкай твораў беларускіх паэтаў ў Латвіі. Беларускае Выдавецтва ў хуткім часе выпускае працу гр. Ю. Аляксандровіч—„Мяцельная ноч“, напісаную на словы нябошчыцы Гэлены Івановай. Увосені намячаецца канцэрт з беларускіх твораў Ю. Аляксандравіч, у якім прымуць удзел: беларускія сьпявачкі гр. А. Бедарава і гр. А. Латонас, а таксама і сама кампазытарка, Ю. Аляксандровіч, у якасьці піаністкі.

**Беларускія лекцыі-канцэрты у Рызе** распачалі арганізоўваць Рыскія беларускія школы. У працягу 1931 навучальнага году адбылося некалькі такіх лекцый-канцэртаў, робленых як мейсцовымі лектарамі, гэтак і запрошанымі з-за мяжы беларускімі сіламі. З гэтых лекцый (у хронолёгічны парадку) найбольш цікавымі аказаліся наступныя:

21. XII. 1931. — лекцыя К. Езавітава на тэму: — „Значаньне кнігі і школы ў ча-

лавечым жыцьці і ў беларускім адраджэньні. Лекцыя роолена была ў зале 1-е Рыскае аснаўное щколы для бацькоў і вучняў гэтае школы (В. Маскоўская, 173). Пасьля лекцыі сьпяваў хор вучняў аснаўной школы пад кіраўніцтвам гр. М. Грыўскага.

22. XII. 1931 — была паўторана папярэдняя лекцыя. але ўжо для вучняў і бацькоў Рыскае беларускае гімназіі (В. Маскоўская 173). Пасьля лекцыі сьпяваў хор вучняў пад кіраўніцтвам М. Грыўскага.

16. IV. 1932 — лекцыя К. Езавітава на тэму — „Асьвета ў Латвіі і на Беларусі“. Лекцыя ладжана была ў зьвязку з „Тыдням Латвійскае Асьветы“ ў зале Рыскае Беларускае гімназіі на Маскоўскім Фарштаце. Пасьля лекцыі выступалі: гр. А. Бедарава—з беларускімі сьпевамі і гр. В. Бароўская-Пігулеўская — з некалькімі канцэртнымі намярамі на піаніно.

17. IV. 1932 — лекцыя М. Дзямідава на тэму: — „Пазашкольнае выхаваньне“. Лекцыя ладжана была ў зале Беларускае Дадатковае школы на Чырвонай Дзьвіне (Сыманаўская, 14-16). Пасьля лекцыі выступалі: гр. А. Латонас — з беларускімі сьпевамі і В. Бароўская - Пігулеўская — з некалькімі намярамі на піаніно.

23. IV. 1932 — лекцыя Антона Луцкевіча на тэму—„Пясьнярка-барадзьбітка“. Жыцьцё і творчасьць „Цёткі“. Лекцыя адбылася ў зале 1-е Рыскае беларускае аснаўное щколы
це. Пасьля лекі
гімназіі пад кіра



24. IV. 1932 —
тэму — „Янка I
рускага Адрадж
ся ў зале Рыскае беларускае дадатковае школы для дарослых на Чырвонай Дзьвіне. Пасьля лекцыі сьпяваў хор вучняў дадатковае школы пад кіраўніцтвам М. Грыўскага; затым вучні гэтае школы выступалі з дэклямацыяй вершаў Я. Купалы і Я. Коласа. Пасьля канцэрту вучыцялі Дадатковай і 2-й Рыскай аснаўной школы ўладзілі сяброўскую гарбату.

**Беларуская экскурсыя у Літву.** 26 траўня хор і настаўнікі Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі выяжджалі на аўтабусах, разам з хорам Дзьвінскае Урадовае Латыскае гімназіі, у горад Нова - Аляксандраўск (Эжарэны, або Зарасай, як зара перайменавалі яго літвіны) у госьці да тамтэйшае Літоўскае Дзяржаўнае гімназіі. Беларускі хор, як і латыскі, выступаў там са сваім беларускім рэпэртуарамі і спаткаў дужа гарачы прыём з боку сабраўшагася ў гімназію нова-аляксандраўскага беларускага і літоўскага грамадзтва.

---


Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў.**

Выдавец — **Беларускае Выдавецтва.**




Типографія Иге, Рига, Гертрудинская ул. № 80.